**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 23 (895) 8 чэрвеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by








Бардаўскі фэст у Германавічах (Шаркоўшчынскі раён). "Літоўскі легіён" – спявае бард Андрэй Мельнікаў, г. Гомель. *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*













## Для АСВОД Віцебскай вобласці закупяць новыя лодкі

**Віцебская абласная арганізацыя таварыства выратавання на водах абвясціла тэндар на закуп 15 лодак коштам 42 000 рублёў.**

Паводле ўмоў тэндара закупляюцца шклопластыкавыя маторнавяслярныя лодкі ёмістасцю 4-5 чалавек. Яны павінны быць абсталяваныя маторамі магутнасцю не меней за 12 конскіх сіл.

Закуп новых лодак для Віцебскай абласной арганізацыі РГТА АСВОД фінансуецца з абласнога бюджэту. З'явяцца яны ў выратавальнікаў, на жаль, практычна ў канцы купальнага сезона — не пазней за 10 жніўня.

***ННВ.***









ISSN 2077-8023





**Увага!!!**

**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная** – 636682, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

## Полацкі раён

# З кабінетаў за краты

■ Станіслаў Раманчук.

**Нягледзячы на эканамічны крызіс, колькасць зарэгістраваных злачынстваў у Беларусі пакрыху зніжаецца.**

З пачатку года меней стала на 8 % правапарушэнняў на Віцебшчыне, дзе стала спакайней і ў Полацкім раёне. Там, праўда, супрацоўнікаў міліцыі насцярожыла серыя выдаскаленых згвалтаванняў маладых дзяўчат. З імі выпадковыя хлопцы ў адзіночку альбо групай знаёміліся на вечарах адпачынку ў начных барах, падсыпалі ў выпіўку клафелін і іншыя прэпараты і потым рабілі з партнёршамі, што хацелі. Падазроных лавеласаў-гвалтаўнікоў удалося затрымаць, як і вынесці прысуды за розныя махінацыі цэлай групе мясцовых высокапастаўленых кіраўнікоў рэгіёна. Вярхоўны суд Беларусі пакінуў у сіле прысуд у адносінах траіх былых кіраўнікоў Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода "Нафтан". За злоўжыванні службовым становішчам, атрымане пяць разоў хабару былы намеснік гендырэктара, начальнік упраўлення і начальнік аддзела атрымалі ў суме 28 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Адначасова ў законную сілу ўступіў прыгавор у адносінах групы з трох былых службовых асоб Полацкага вінаробчага завода і іх кампаньёна з адной сталічных фірм. Як было ўстаноўлена следствам, яны заняліся махінацыямі пры закупе абсталявання, заніжалі па дакументах аб'ёмы прадаж, каб меней плаціць падаткаў. У выніку за злоўжыванні службовым становішчам экс-дырэктара пакаралі 7 гадамі турмы, яго намеснік 3 гады правядзе за кратамі. Іх партнёр "зарабіў" 6,5 гадоў пазбаўлення волі і толькі галоўнага бухгалтара асудзілі на 3 гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову.

## Пастаўскі раён

# Новая ноша завода

■ Кастусь Александровіч

**Рознымі спосабамі спрабуюць выратаваць у нас ад краху нерэнтабельныя гаспадаркі-банкруты.**

Найчасцей спрабуюць іх перадаць моцным вытворцам з гарадоў. Па такім шляху пайшло напрыканцы вясны кіраўніцтва вобласці і сваёй пастановай перадало адно з буйнейшых у краіне ААТ "Камайскі-агра" ў падпарадкаванне Пастаўскага малочнага завода. Гэта прадпрыемства на Пастаўшчыне апошнім часам стала адным з флагманаў айчыннай перапрацоўчай прамысловасці, павялічыла колькасць працуючых да звыш 400 чалаевк, прадала летась прадукцыі на экспарт амаль на 30 млн. долараў. А вось у новых партнёраў справы значна горшыя, гэту гаспадарку чакала працэдура дасудовага аздараўлення (санацыі), хоць яшчэ нядаўна яна ўваходзіла ў лік 60 вядучых у Беларусі, выраблялa да 37 % валавай прадукцыі АПК раёна. Яна, праўда, мела даўгі і перад малзаводам, якому мясцовыя гаспадаркі ў пачатку года завінавацілі 9,2 млн. рублёў крэдытаў, а малаком не могуць разлічыцца. Завадчане штодзень перапрацоўваюць 250 тон сыравіны, вымушаны завозіць малако з 6 раёнаў Віцебшчыны, з трох на Міншчыне і з гаспадарак Гродзенскай вобласці. Вось на павелічэнне ў будучым уласнай сыравіннай базы разлічваюць пасля гэтай рэарганізацыі. Завод прызначыў у свой буйны сельгасфіліял новага кіраўніка, уклаў сродкі ў пакупку некалькіх адзінак новай тэхнікі і агрэгатаў для працы на палях. Самі завадчане працаваць умеюць, яны атрымалі крыштальны Кубак за дасягненні ў галіне якасці за 2016 год і спадзяюцца, што іх падтрымаюць і новыя партнёры на вёсцы.

## Браслаўскі раён

# На радасць дзецям

■ Чэслаў Якубовіч.

**Акрамя традыцыйных штогод святочных мерапрыемстваў на Міжнародным фестывалі традыцыйнага мастацтва "Браслаўскія зарніцы" сёлета ў яго праграме выдзяліліся два новыя.**

У гонар юбілейнага 50-га па ліку свята спачатку там на беразе возера адкрылі велічны памятны знак у выглядзе шара на пастаменце з камянёў-валуноў. Таксама мастацкія калектывы з Польшчы далі канцэрты ў розных мясцінах азёрнага краю. У самім райцэнтры на сямі пляцоўках потым прайшлі харавая асамблея, тэатралізаванае прадстаўленне, а вечарам рыцарскія клубы з Беларусі, Літвы і Польшчы на Замкавай гары пазнаёмілі ўсіх з сярэднявечнай культурай і бытам. Усеагульную ўвагу прыцягнула і ўрачыстае адкрыццё дзіячай парусная школы на базе мясцовага ФСК "Дрывяціч", аб чым тут марылі раней. Старажылы памяталі, як перад вайной за польскім часам на возеры Дрывяты плённа дзейнічаў сапраўдны яхт-клуб. Намаганні мясцовай улады падтрымала пасольства Польшчы ў Беларусі, на рэалізацыю праекта выдзеліла 100 тысяч еўра. У райцэнтр першыя 15 парусных лодак класа "Аптыміст" даставілі яшчэ зімой разам з кацерам і іншай амуніцыяй. Да фестывалю пабудавалі ангар для інвентару і прычал. Палякі інвестуюць яшчэ 40 тысяч еўра ў падрыхтоўку трэнерскіх кадраў, бо ў новую школу плануюць набраць тры групы юных яхтсменаў.

## Аб самым надзённым

# ПРАЕКТЫ АДНАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКІХ РЭГІЁНАЎ ЧАКАЕ, ХУТЧЭЙ УСЯГО, ЭФЕКТ, ЯК ПАСЛЯ МАДЭРНІЗАЦЫІ ДРЭВААПРАЦОЎКІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Спецыялісты добра ведаюць, што ніводзін праект мадэрнізацыі па-беларуску не завяршыўся паспяхова, як задумвалася, не стаў у поўнай ступені самаакупным. Горш таго, нібыта скончыўся канфлікт Беларусі з суседняй Расіяй, але напрыканцы мая кіраўнік іх карнага ведамства "Россельхознадзора" Сяргей Данкверт стаў крытыкаваць беларускае малако.**

Усё ж жывём мы, як паказвае паўсядзённая практыка, у даволі своеасаблівай краіне. Бадай нідзе болей у свеце няма такога, каб на вышэйшым узроўні кіраўніка дзяржавы на асобнай нарадзе разглядаліся пытанні далейшага развіцця ў Беларусі не эканомікі, а такога віду спорту, як хакей. Прэзідэнт сам захапіўся ў сталым узросце гэтай гульнёй, рэгулярна выходзіць на лёд, моцна перажывае за нацыянальную зборную. А яна паказвае слабыя вынікі, балансуе на грані вылету з эліты. Парадавала беларусаў хіба што тое, што наша сталіца разам з латышскай Рыгай сумесна прыме 7-23 мая 2021 года чэмпіянат свету.

З цягам часу гады бяруць сваё і апошнім часам А. Лукашэнку ўсё больш цягне да родных мясцін, дзе ён нарадзіўся і правёў шчаслівыя гады маладосці. Вось чаму яшчэ мінулай восенню ён наведаў сціплы пасёлак Копысь, што ў Аршанскім раёне, і даў указанне пераўтварыць гэты аграгарадок у візітную картку ўсёй нашай краіны. Цяпер там, сапраўды, кіпіць праца, на стварэнні вёскі будучага з насельніцтвам 900 чалавек штодзённа працуе да паўтысячы рабочых з больш дзесяці розных падрадных арганізацый. Копысь і дагэтуль выглядаў няблага, але слаба верыцца ў абяцанні чыноўнікаў, што на яе ў будучым будуць падобныя іншыя нашы мястэчкі. Бюджэт дзяржавы – не бяздонная бочка і на ўсіх, відавочна, грошай на стварэнне ўзорных вёсак не хопіць.

Аднак у гэты рэгіён сёлета, як ніколі раней, зачасцілі ўпраўленцы самага высокага рангу. Савет Міністраў Беларусі правёў там днямі сваё выязное пасяджэнне, члены ўрада на чале з прэм'ер-міністрам А. Кабяковым перад працай у кабінеце наведалі многія прадпрыемствы Оршы і яе гарадоў-спадарожнікаў Барані і Балбасава. Сітуацыя ў гэтым, калісьці за савецкім часам магутным індустрыяльным цэнтры, цяпер далёка не аптымістычная. Беларускі лідар невыпадкова заклікаў падначаленых падняць Аршаншчыну з "руін".

Няпростая там абстаноўка на многіх прамысловых прадпрыемствах, складана людзям з працай, няма належнай аддачы ад укладанняў у АПК. На вёсцы большасць ферм састарэлі, эксплуатуюцца чвэрць стагоддзя, у будаўніцтве 2 буйныя арганізацыі з шасці апынуліся на мяжы банкруцтва. Як ні круці, але многім людзям у гэтым рэгіёне жывецца няпроста, насельніцтва стала скардзіцца на неэфектыўную работу мясцовых органаў кіравання. Пра гэта пачула глава прэзідэнцкай Адміністрацыі Наталля Качанава падчас асабістага выязнога прыёму ў Копысі. Таму сюды нядаўна прызначылі новагу главу раёна, каб ён навёў патрэбны парадак на аршанскай зямлі.

А пакуль на прайшоўшым у Оршы пасяджэнні разглядзелі і зацвердзілі маштабны план развіцця Аршаншчыны з больш чым 90 пунктаў. Як прынята ў нас, за кожным прадпрыемствам, аб'ектамі сацсферы, сферы паслуг і турызму, уключаным у гэты план, прызначылі адказным адпаведную службовую асобу высокага рангу. Вось толькі, як паказвае практыка апошніх гадоў, і лёс чарговай маштабнай праграмы можа тут быць незайздросным. Узгадайце, што на практыкы выйшла з ранейшых праграм адраджэння беларускай вёскі і стварэння там аграгарадкоў, потым мадэрнізацыі цэментных заводаў і дрэваапрацоўкі?

Спецыялісты добра ведаюць, што ніводзін праект мадэрнізацыі па-беларуску не завяршыўся паспяхова, як задумвалася, не стаў у поўнай ступені самаакупным. Горш таго, нібыта скончыўся канфлікт Беларусі з суседняй Расіяй, але напрыканцы мая кіраўнік іх карнага ведамства "Россельхознадзора" Сяргей Данкверт стаў крытыкаваць беларускае малако. Па ягоных словах, у гэтай прадукцыі аказваецца шмат сінтэтычных антыбіётыкаў ад сіфіліса кароў. Таксама і адзін з самых пажылых беларускіх віцэ-прэм'ераў, галоўны перамоўшчык з Расіяй Уладзімір Сямашка прызнаў, што айчынны аўтазавод МАЗ адстаў у развіцці і таму мае вялікія праблемы.

Праўда, у той самы момант Беларусь рашылася на вельмі вялікія льготы для рэзідэнтаў беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку "Вялікі камень". Гэты крок, сапраўды, правільны і рынкавы, бо з'явіліся гарантыі ўласнасці для інвестараў, гарантыі на зямлю і невялікія падаткі, што можа прыцягнуць пад Смалявічы кітайцаў з буйнымі капіталамі. Вось бы гэты пачын распаўсюдзіць далей і на ўсю Беларусь, першапачаткова хоць бы на той жа Аршанскі рэгіён, бо без разнявольвання дзелавой актыўнасці наша краіна прадоўжыць таптанне на месцы, а "стыдобішчам" будзе і надалей не толькі беларускі хакей. Пакуль жа пачакаем, які далейшы лёс чакае новыя кітайскія легкавыя аўтамабілі беларускай зборкі на новым аўтазаводзе пад Барысавам. Праблема ў тым, ці пагадзіцца тая ж Расія свабодна пускаць іх на свой рынак, альбо парэкамендуе прадаваць такія "народныя аўто" толькі свайму беларускаму народу.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 08.06.17 | | | | Пятніца 09.06.17 | | | | Субота 10.06.17 | | | | Нядзеля 11.06.17 | | | | Пн.12.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +13 | +19 | +17 | +11 | +14 | +18 | +17 | +14 | +16 | +18 | +19 | +14 | +18 | +21 | +20 | +15 | +17 | +21 |
| Ціск | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 746 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 750 | 749 |
| Вецер м/сек | 3 Пн-З | 4 Пн-З | 4 З | 3 З | 3 З | 4 З | 4 Пн-З | 1 З | 2 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд | 1 Пд | 1 З | 1 Пн-З | 1 У | 3 З |
| Вільготнасць | 97 | 72 | 57 | 62 | 87 | 64 | 58 | 78 | 96 | 77 | 79 | 78 | 90 | 74 | 62 | 82 | 98 | 77 | 58 |

## Дзень за днём

**"Рассельгаснагляд" унёс у "чорны спіс" амаль 100 беларускіх прадпрыемстваў. Індустрыяльнаму парку "Вялікі камень" значна пашырылі льготы. ЗША ў 2018 годзе спыняць фінансавую дапамогу Беларусі. На заработкі за граніцу ў І-м квартале выехалі 2 тысячы беларусаў. Беларускім школьнікам дабавяць урокаў матэматыкі і зменшаць заняткі па хіміі. Летам 357 тысяч дзяцей адпачнуць у аздараўленчых лагерах. У пачатку чэрвеня зноў падаражэлі асобныя віды цыгарэт.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Пасля тэракту на канцэрце на стадыёне "Манчэстэр-Арэна" ў краіне ўвялі павышаныя меры бяспекі, на дапамогу паліцыі на вуліцы вывелі ўзброеных ваенных.

**Саўдаўская Аравія.** Прэзідэнт ЗША Д. Трамп падчас візіту падпісаў грандыёзны кантракт на пастаўкі ў краіну сучаснай амерыканскай зброі на суму звыш 100 млрд. долараў.

**Турцыя.** Урад краіны ўвёў новыя абмежаванні на імпарт пшаніцы з Расіі ў адказ на забарону паставак у РФ турэцкіх памідор і іншай садавіны і гароднiны.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі заклікаў НАТО да дыялогу з Крамлём, для абмену думкамі і кансультацый па пытаннях узаемнай ваеннай бяспекі, гэта важна для палякаў.

**Кітай.** Да энергасістэмы краіны ў правінцыі Аньхой падключылі найбуйнейшую ў свеце плаваючую сонечную электрастанцыю магутнасцю 40 МВт, летась здалі ПСЭ 20 МВт.

**Германія.** У 4 землях краіны 253 паліцэйскія і работнікі пракуратуры правялі вобшукі адразу ў 11 офісах аўтаканцэрна Daimler за незаконную рэкламу і махінацыі выкідаў газу.

**Казахстан.** Эканаміст Д. Сатпаеў заявіў, што краіны-члены ЕАЭС становяцца закладнікамі знешняй палітыкі Крамля, казахі, беларусы атрымоўваюць толькі праблемы.

**Украіна.** Намеснік главы МУС В. Траян пацвердзіў, што асноўная версія забойства журналіста П. Шарамета – расійскі след, яго імя з'явіцца на мемарыяле Музея навін ЗША.

**Латвія.** Пасля адмовы краіны ад удзелу ў праекце газаправода "Паўночны паток-2" Расійская чыгунка практычна перастала адпраўляць грузы ў латвійскія парты.

**Украіна.** З-за зніжэння пасажырапатоку больш чым на 60 % услед за грузавымі перавозкамі краіна з 1 ліпеня 2017 года спыняе рух пасажырскіх цягнікоў у Расію.

**ЗША.** У новай сваёй справаздачы спецдакладчык ААН Міклаш Харасці адзначыў хуткае і рэзкае пагаршэнне сёлета сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

**Расія.** Акцыяй застрашэння рускай інтэлігенцыі назвалі СМІ РФ вобшукі ў самым вядомым тэатры "Гогальцэнтр" і ў кватэры рэжысёра К. Сярэбраннікава.

**ЗША.** Расійскі дысідэнт у выгнанні Г. Каспараў пацвердзіў, што з меркаванняў бяспекі не вернецца ў РФ, пакуль там не зменіцца дыктатура, а Пуцін не ведае свой будучы лёс.

**Расія.** Пасля доўгага лячэння сэрца памёр 75-гадовы ўнук Сталіна, рэжысёр тэатра Расійскай арміі, народны артыст РФ Аляксандр Бурдонскі, ён жыў з прозвішчам маці.

**Непал.** З пачатку сезона ўзыходжання на Эверэст у "мёртвай зоне" з малым аб'ёмам кіслароду загінулі ўжо 10 альпіністаў, усяго там загінула больш 200 чалавек.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Рэальныя зарплаты ў краіне, як заявіў эканаміст М. Залескі, за выключэннем сталіцы, дзяржслужачых, Салігорска, некалькіх багатых рэгіёнаў ў раёне 200 долараў.

**Гомель.** Кампанія "Гомельтранснафта" падпісала пагадненне з калегамі з Украіны аб выкарыстанні нафтаправода Мазыр-Броды для дастаўкі нафты ў абход Расіі.

**Мінск.** Спецпрадстаўнік старшыні АБСЕ М. Сайдзік паскардзіўся, што сёлета колькасць загінуўшых у Данбасе ў параўнанні з 2016 годам павялічылася адразу на 120 %.

**Смалявічы.** У разрэкламаваным індустрыяльным парку "Вялікі камень", як пацвердзіў палітолаг В. Карбалевіч, 9 рэзідэнтаў з Кітая, але пакуль рэалізуюць толькі 2 праекты.

**Мінск.** Па аб'ёмах продаж аўто ў Расію (1102 машыны) МАЗ апусціўся на 4-е месца ўслед за КАМАЗам, ГАЗам і Volvo, беларусаў сталі даганяць канкурэнты Scania і Mercedes.

**Барысаў.** На новым аўтазаводзе "Белджы" здалі першым у эксплуатацыю цэх афарбоўкі легкавых аўтамабіляў Geely, летам і восенню пачнуць выпуск яшчэ двух іх мадэляў.

**Мінск.** Пасля абрання старшынёй Беларускай федэрацыі хакея ад пасады главы Мінскай вобласці вызвалілі 55-гадовага доктара навук, экс-міністра сельскай гаспадаркі С. Шапіру.

**Брэст.** На ўездзе ў абласны цэнтр ноччу на адной з вуліц з'явілася расцяжка-плакат "Где наша зарплата 500 $ ?", арганізатараў гэтай акцыі пачалі шукаць.

**Мазыр.** Мясцовых жыхароў абурыла перадача ў арэнду для прамысловага рыбалоўства адразу 91 км участка ракі Прыпяць і прылягаючых да яе пойменных вадаёмаў.

**Пінск.** Па факце падзення з балкона 3-га паверха аздараўленчага цэнтра 9-гадовага вучня падчас ціхага часу пачалося следства, хлопчык з траўмай галавы патрапіў у бальніцу.

**Мінск.** У мікрараёне Каменная Горка адкрыўся гандлёва-забаўляльны цэнтр з буйнейшым гіпермаркетам сеткі Green плошчай 6,3 тысяч кв. метраў з зонай буцікоў, рэстаранамі.

**Ліда.** Тапанамічная камісія з прадстаўнікоў улад горада і раёна са згоды грамадскасці вырашыла памяняць рускамоўную назву рабочага пасёлка Бярозаўка на беларускую.

**Мінск.** Расійскі сатырык і праваабаронца В. Шэндэровіч папярэдзіў, што абгрунтаваныя страхі вашы, бо Беларусь можа стаць зноў часткай Расіі, як было з Крымам, Данбасам.

**Гомель.** Упершыню ў краіне ў трох магазінах горада адкрылі "паліцы дабра", дзе пакупнікі могуць купіць прадукты і пакінуць ежу, а беднякі – забраць яе бясплатна.

**Нясвіж.** Жыхар райцэнтра А. Невядоўскі ва ўласнай сажалцы ля дома паблізу мясцовага замка вылавіў вялізнага карпа вагой 10 кг, шчупак паспеў адгрызці рыбе ўвесь хвост.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Прэм'ер-міністр Беларусі паабяцаў раёну падтрымку ўрада ў рэалізацыі праграмы комплекснага развіцця Аршаншчыны, па вывадзе рэгіёна на новы ўзровень развіцця.

**Талачын.** Работнікі кансервавага завода зноў пасадзілі найбольш у краіне бульбы лепшай айчыннай, нямецкай і галандскай селекцыі на плошчы 900 гектараў.

**Браслаў.** Падчас веснавой сяўбы ў СВК "Маяк Браслаўскі" ўручную і спецыяльнымі камняўборачнымі машынамі сабралі з палёў 840 тон камянёў, пасеялі 4 тысячы га яравых.

**Віцебск.** Глава МУС Беларусі І. Шуневіч прадставіў асабоваму складу новага начальніка міліцыі вобласці, 42-гадовага палкоўніка І. Кубракова, яго перавялі служыць з Мінска.

**Полацк.** Калектыў ААТ "Полацк-Шкловалакно" стаў зноў адным з пераможцаў рэспубліканскага конкурсу "Лепшы экспарцёр 2016 года", у фінал прайшлі 144 фірмы.

**Паставы.** З пачатку года ў раёне распачалі ўжо 7 крымінальных спраў за незаконны абарот наркотыкаў, у аднаго са зламыснікаў канфіскавалі 1 кг 270 грам марыхуаны.

**Копысь.** На выязным прыёме людзі паскардзіліся главе прэзідэнцкай Адміністрацыі Н. Качанавай на адсутнасць у гарадскім пасёлку банкамата, слабы асартымент тавараў у крамах.

**Новалукомль.** Аздараўленчы лагер "Юнацтва" мясцовай ГРЭС прыняў на адпачынак у 1-ю змену 190 дзяцей, за летні сезон у ім паправяць здароўе 570 рабят ад 6 да 15 гадоў.

**Орша.** З дазволу начальства сілавікі ўварваліся ў жылы дом новага главы раёна Л. Пянькоўскага, калі ён быў хворы, не выходзіў на сувязь і знаходзіўся ў сваіх сваякоў.

**Сянно.** Днём на трасе Багушэўск-Какоўчына ля вёскі Белянёва ў выніку сутыкнення аўтамабіляў Ford і "Нівы" загінула 17-гадовая пасажырка, у бальніцы памер юнакі

**Докшыцы.** У райцэнтры прайшоў традыцыйны Дзень прызыўніка, 35 мясцовых хлопцаў адправілі на ваенную службу на абласны зборны пункт у армію і войскі МУС Беларусі.

**Глыбокае.** Каманда мясцовых электрычных сетак стала пераможцай спаборніцтваў па ліквідацыі здарэнняў сярод санітарных дружын і прадставіць раён у абласным фінале.

**Верхнядзвінск.** Пасля ліквідацыі пажару ў доме вёскі Каралёва ў гадзіну дня на ложку ў адным з пакояў знайшлі труп гаспадара, які, верагодна, закурыў тут у апошні раз.

**Шаркаўшчына.** Міліцыя аператыўна затрымала 31-гадовага беспрацоўнага жыхара райцэнтра, які ноччу не ведаў, чым заняцца і "замініраваў" тэрыторыю газавай станцыі.

**Паставы.** Пад раніцу суседзі выратавалі ад гібелі на пажары 85-гадовага пенсіянера з райцэнтра, у ягоным жылым доме агонь пашкодзіў дах і столь памяшкання.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*



# Гражына Аўгувенэ: Жывёлы ў нас шчаслівыя, таму што мы самі шчаслівыя

**Гэтыя словы гаспадыня фермерскай гаспадаркі ў Дзіджасалісе, што ў 8 кіламетрах ад Друскенікаў, прамовіла перад беларускімі гасцямі, якія наведалі фермераў напрыканцы траўня.**

**Зміцер Лупач**

Гражына распавядае, што дваццаць гадоў таму яны з мужам пасяліліся ў гэтай вёсцы, каб даглядаць старых бацькоў мужа. Але потым так і засталіся тут.

– Тут наша зямля, тут я адчуваю сябе свабодна, – кажа Гражына, – я шчаслівы чалавек, у нас зараз усё ёсць, што трэба для жыцця. Таму і жывёлы нашы шчаслівыя, бо яны адчуваюць тое, што шчаслівыя гаспадары.

Гаспадарка ў сям'і Гражыны не малая: 3 кані, 10 кароў, 4 казы, казёл, гусі, куры, качкі. У іх 30 га зямлі, на якой яны вырошчваюць збожжа, кукурузу і траву для жывёл. На гаспадарцы працуюць Гражына з мужам і дачка са сваім сябрам. Наёмных работнікаў у іх няма. Калі трэба куды паехаць, то адпускаюць адзін аднаго.

А так абавязкі падзелены: раніцай па гаспадарцы ўпраўляюцца старэйшыя, вечарам – малодшыя. Каровы дояцца апаратамі, але спраў усё адно хапае.

Некалькі гадоў таму сям'я вырашыла паспрабаваць рабіць у гаспадарцы французскі пармезан. Праект аказаўся паспяховым,і зараз іх сыр ведаюць ва ўсёй Літве.

Сыры выспяваюць у адмысловым склепе, дзе падкрываюцца плесенню, якая неабходна для гэтага гатунку сыру.

За год сям'я вырабляе каля 5 тон сыроў. Іх замаўляюць на вяселлі, розныя ўрачыстасці, купляюць іх рэстараны і кавярні.

Рыхтуецца сыр у летняй кухні. Праўда, халадзільнік і сепаратар, што выкарыстоўваюцца для вытворчасці, прафесійныя і дарагія. Частка іх кошту аплочана з праектаў Еўразвязу.

Пасля таго, як вытворчасць сыру была наладжана, на сядзібу да фермераў сталі напрошвацца госці, каб паглядзець на іх вытворчасць і прадэгуставаць розныя гатункі сыроў.

– Напачатку ў нас не было ніякай інфраструктуры, каб прымаць гасцей, – распавядае Гражына, – таму я папрасіла мужа зрабіць невялікі летні домік для гасцей. Але некаторыя з гасцей хацелі заставацца ў нас на ноч, таму прыйшлося зрабіць яшчэ месца і для начлегу.

Гражына – вельмі энергічная, жыццярадасная жанчына. Гледзячы на яе, ні за што не скажаш, што ёй ужо мінула пяцьдзясят. Энергію, па яе словах, ёй дае праца на зямлі, чыстае паветра і сустрэчы з гасцямі.

А гасцей сюды прыязджае вельмі шмат, не толькі з Літвы, але і з Расіі, Польшчы, Беларусі, іншых краін Еўропы. Гаспадыня ахвотна дзеліцца сакрэтамі прыгатавання сыроў, а мацарэлу гатуе прама перад гасцямі, дзе яе адразу можна пакаштаваць.

– Як мы толькі пажаніліся, мы ішлі тут з мужам, і я яму сказала, што пра нас будуць пісаць газеты, тэлебачанне будзе нас здымаць. Ён пагладзеў тады на мяне, як на ненармальную. Але вось мае мары і збыліся *(смяецца)*.

Прыклад сям'і Гражыны Аўгувенэ паказвае, што ў літоўскай вёсцы можна жыць дастойна і быць шчаслівымі. Трэба проста імкнуцца да гэтага.



Гражына паказвае, як робіцца сыр мацарэла.

# У гэтым краі добра, калі побач ёсць аднадумцы!

**3 чэрвеня ў слаўным мястэчку Германавічы, што ляжыць на беразе ракі Дзісёнкі, адбыўся чарговы штогадовы фэст бардаўскай песні. Яго традыцыйна арганізоўвае мясцовая грамадская актывістка 80-гадовая Ада Эльеўна Райчонак. На запрашэнне вельмі ахвотна адгукаюцца барды з усёй Беларусі.**

■ **Уладзімір Скрабатун**

Сёлета на бардаўскі фэст сабралася як ніколі шмат людзей, болей, чым у мінулыя гады. Чалавек шэсцьдзясят. Усцешна, што сёлета вельмі актыўна брала ўдзел і моладзь.

У арганізацыйных і інфармацыйных пытаннях Адзе Райчонак вельмі часта дапамагае Глыбоцкая філія Беларускай Асацыяцыі Журналістаў. Перадусім яе старшыня Таццяна Смоткіна. А сябра глыбоцкай філіі БАЖа Галляш Сялява з Браслава падрыхтаваў гэтым разам цікавую віктарыну на тэму беларускай музыкі. Гледачы, пераможцы віктарыны атрымалі падарункі – магнікі з відарысамі Браслава.

Дарэчы, як мы некалі адзначалі, Галляш Сялява, акрамя таго, яшчэ і дудар. Сыграў прысутным на дудзе адну з мелодый.

Адкрыццём гэтага фэсту сталі некалькі бардаў з Шаркоўшчыны, Браслава і Лепеля.

Пакуль частка бардаў была яшчэ ў дарозе, пачаў фэст бард і кампазітар Віталь Хватынец з Лепеля. Запомнілася яго песня "Я іду ў лістапад".

Пад'ехалі і іншыя барды. Далей рэй вёў Андрэй Мельнікаў з Гомеля. Ягоная творчасць папулярная і вельмі глыбокая. Ён спявае па-беларуску пачатак «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча і «Літоўскі легіён» Юльюша Славацкага, спявае пра Курапаты, перапявае вершы Анатоля Сыса, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча… Сум па страчаным Вялікім Княстве Літоўскім, калі ўсе беларусы тады зваліся літвінамі, па еўрапейскасці, па гонары і патрыятызме, які мы згубілі і сёння ў незалежнай Беларусі…

Далей выступаў малады і таленавіты музыка, старшыня Полацкага ТБМ Ігар Палынскі (Полацк), а таксама Іван Гарбачонак (Шаркоўшчына), Міхаіл Героеў (Браслаў), Антон Бубала (Верхнядзвінск), Міхаіл Рубін (Віцебск).

Бард і журналіст з Радыё Свабода Зміцер Бартосік сёлета абмежаваўся толькі выкананнем адной песні, аднак прачытаў прысутным цэлы раздзел са сваёй кнігі "Быў у пана верабейка гаварушчы" аб прадказаннях глыбоцкіх старцаў з 1930-х гг, запісаных з вуснаў глыбачанкі Яніны Бацяноўскай – "Беларусь – будзіць!"

Так, Беларусь будзе! І бардаўскі фэст у Германавічах - гэта, перадусім, беларуская мова, беларускія песні, беларуская культура! Магчымасць сустрэцца аднадумцам з нашага краю, з усёй краіны, магчымасць займець новыя знаёмствы.



**Людміла Ардынская з Радзюкоў, сталая чытачка і аўтарка публікацый у нашай газеце, чытае свой новы верш, прысвечаны роднай мове.**

**80-гадовая грамадская актывістка Ада Эльеўна Райчонак штогод арганізоўвае ў Германавічах бардаўскія фэсты і краязнаўчыя канферэнцыі, а ў мінулым годзе яшчэ і Бульбяны фэст.**



**Спявае малады бард Ігар Палынскі з Полацка.**



**Бард і кампазітар Віталь Хватынец з Лепеля спявае песню "Я іду ў лістапад".**

# Звон цымбалаў і вал мелодый

## ПРАГРАМА
## XX Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік"

**9 чэрвеня (пятніца)**

**11.00 – 13.00** Літаратурна-музычнае свята "Душой народжаная слова" з удзелам літаратурных аб'яднанняў.

*Канцэртная зала па вул. Чырвонаармейскай.*

**10.00 – 12.00** Спартыўныя спаборніцтвы.

*Гарадскі стадыён.*

**15.00 – 16.00** Мастацкае свята, адкрыццё выставы жывапісу Л. Курыловіч "Прыцяжэнне. Памяць сэрца".

*Выставачная зала Дома рамёстваў.*

**18.00** Канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці Пастаўскага раёна з удзелам замежных творчых калектываў удзельнікаў фестывалю "Карагод народных талентаў".

*Дом культуры па вул. Станкевіча.*

**10 чэрвеня (субота)**

**11.00** Адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай вядомым польскім акцёрам-землякам Станіславу Ясюковічу і Зыгмунту Кенстовічу.

*Кінавідэазала кінатэатра "Радзіма".*

**11.30** Адкрыццё выставы, прысвечанай знакамітым навукоўцам – ураджэнцам Пастаўшчыны (да Года навукі ў Беларусі), Фотавыстава "Чароўныя імгненні фестывалю".

*Краязнаўчы музей, плошча імя Леніна.*

**12.30** Прэзентацыя кнігі "Беларускія народныя музычныя інструменты".

*Выставачная зала Дома рамёстваў.*

**14.00** Прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, членамі журы і аргкамітэта, прадстаўнікамі СМІ.

*Зала пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама.*

**14.00 – 20.00** "Горад майстроў" з удзелам народных майстроў Віцебскай вобласці.

*Плошча імя Леніна.*

**15.00 – 18.00** Традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?"

*Дом культуры па вул. Станкевіча.*

**16.00 – 20.00** "Пастаўшчына гасцінная". Агляд-конкурс сельскіх панадворкаў.

*Плошча імя Леніна.*

**16.30–17.00** Прэзентацыя кнігі пісьменніка-краязнаўцы І. Пракаповіча "Залатая выспа: гісторыі і вершы з крыніц народных".

*Палац Тызенгаўзаў.*

**17.00–18.00** Тэатралізаванае прадстаўленне "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб" з удзелам вучняў Пастаўскай дзіцячай школы мастацтваў імя А. Тызенгаўза.

*Усходні фасад палаца Тызенгаўзаў.*

**20.00 – 21.00** Урачыстае адкрыццё фестывалю.

*Плошча імя Леніна.*

**21.00 – 23.00** Музычна-тэатралізаванае прадстаўленне "Пастаўскі баль". Вогненнае шоу "Огненные Вороны" г. Ліда.

*Плошча імя Леніна.*

**23.00 – 24.00** Канцэрт шоу-групы "Маракасы".

*Плошча імя Леніна.*

**24.00** Святочны феерверк.

*Плошча імя Леніна.*

**00.15 – 02.00** Забаўляльная праграма для моладзі з удзелам лепшых дзіджэяў Віцебскай вобласці.

*Плошча імя Леніна.*

**11 чэрвеня (нядзеля)**

**10.00 – 11.00** Сустрэча-абмеркаванне вынікаў традыцыйнага конкурсу "Хто каго?" з удзелам журы, кіраўнікоў калектываў і гасцей дэлегацый.

*Зала пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама.*

**11.00 – 11.40** канцэрт беларускай і класічнай музыкі з удзелам ансамбля салістаў Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь А. Крамко.

*Пастаўскі касцёл св. А. Падуанскага.*

**10.00 – 15.00** Выстава-продаж вырабаў народных майстроў Віцебскай вобласці.

*Гарадскі парк.*

**11.30 – 12.00** Канцэрт ваеннага духавога аркестра.

*Плошча імя Леніна.*

**12.30 – 13.00** Тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў і гасцей фестывалю.

*Плошча імя Леніна – гарадскі парк.*

**13.00 – 15.00** Заключны гала-канцэрт удзельнікаў XX Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" з удзелам ансамбля салістаў Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.

*Гарадскі парк.*

**Сардэчна запрашаем у Паставы на вялікае свята талентаў народных!**

# У Беларусі вырастуць таксы за прычыненне шкоды навакольнаму асяроддзю

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ нумар 197 «Аб змяненні, прызнанні страціўшымі сілу ўказаў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іх асобных палажэнняў». Пра гэта БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе беларускага лідара.**

**У прыватнасці, дакумент выключае з нарматыўных прававых актаў кіраўніка дзяржавы нормы, выкладзеныя ў Лясным кодэксе.**

Указам прадугледжваецца павелічэнне таксы за скід сцёкавых вод у паверхневы водны аб'ект з парушэннем патрабаванняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя і іншым парушэннем заканадаўства, што прывяло да павышэння тэмпературы ў кантрольным створы паверхневага воднага аб'екта. Таксама ўдакладняюцца выпадкі прымянення павышаючых каэфіцыентаў пры скідзе сцёкавых вод у водныя аб'екты.

Акрамя таго, устанаўліваецца фіксаваны памер таксаў для вызначэння ўрону пры дэградацыі зямель з прымяненнем павышаючых каэфіцыентаў з улікам іх экалагічнай значнасці, уводзіцца такса за выкід забруджвальных рэчываў у атмасфернае паветра пры спальванні адной тоны паліва мабільнай крыніцай выкідаў у залежнасці ад віду паліва.

Указ павялічвае памер таксаў за незаконныя высечку, выдаленне, збіранне і знішчэнне дрэў або кустоў, акрамя як у населеных пунктах. Гэта норма таксама будзе датычыцца выпальвання сухой расліннасці, траў (акрамя газонаў, кветнікаў, лясной падсцілкі, жывога наглебавага покрыва), а таксама ржышча і пажніўных астаткаў.

Дакумент дасць магчымасць устараніць неадназначныя падыходы да прымянення норм указа ад 24 чэрвеня 2008 года нумар 348 «Аб таксах для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю», прадухіліць непажаданае змяненне стану водных рэсурсаў і біялагічных рэсурсаў, што пражываюць у іх, устараніць супярэчнасці ў частцы вызначэння ўрону пры дэградацыі зямель.

*БелТА.*



# Знятыя вясновыя забароны, але сома нельга лавіць да 1 ліпеня

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Пачатак лета выдаўся халодным, аднак, рыбаловы-аматары актыўна наведваюць вадаёмы ў пошуках рыбы. Самыя актыўныя рыбаловы адкрылі сезон лоўлі рыбы з плавальных сродкаў на тэрыторыі Мінскай вобласці.**

Для ўсіх аматараў рыбалкі Глыбоцкая міжрайінспекцыі нагадвае, што выкарыстанне плавальных сродкаў на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволены з 9 чэрвеня 2017 года, у той жа час з 31 траўня па 1 ліпеня забароненыая лоўля сома.

За перыяд вясновай забароны інспектары міжрайінспекцыі за незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі і спосабамі лоўлі затрымана 19 грамадзян, узбуджана 3 крымінальных справы, канфіскавана больш за 2 км., браканьерскіх сетак, 9 іншых прылад рыбалоўства, амаль 100 кг. незаконна здабытай рыбы.

Нягледзячы на строгія меры адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці за браканьерства, штотыдзень на тэрыторыі раёна, вобласці і рэспублікі інспектарамі затрымоўваюцца дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, каля 22 гадзін вечара 4 чэрвеня падчас правядзенні чарговага рэйду па спыненні браканьерства супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на сажалцы паблізу в. Сяменчыкі Глыбоцкага раёна затрымалі двух жыхароў в. Ломашы, якія спадзяючыся на надыходзячую ноч, усталявалі сетку, але вось няўдача: на беразе іх ужо чакалі інспектары, а праведзеная відэафіксацыя факту браканьерства толькі пацвердзіць факт незаконнай рыбалкі. Зараз парушальнікаў чакае раённы суд і штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь.

Нагадваем грамадзянам аб адказнасці за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, за знаходжанне грамадзяніна ў рыбалоўных угоддзях з забароненымі прыладамі рыбалоўства (сетка, восці, мярэжа і г.д.) прадугледжана адміністрацыйная адказнасць ў выглядзе штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі.

"Тэлефон даверу" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8-02156-5-59-80 (кругласутачна), Інспектары: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 мтс.



# У Глыбоцкім раёне школьніца патрапіла пад машыну, размаўляючы па мабільніку

**Аварыя адбылася 3 чэрвеня ў 12.20 на 3-м км аўтадарогі Н-2402 у Глыбоцкім раёне. 67-гадовы мужчына за рулём Peugeot 406 здзейсніў наезд на 12-гадовую дзяўчынку. Яна знаходзіцца ў бальніцы, паведаміў прадстаўнік ДАІ рэгіёна Аляксандр Казючыц.**

«Як растлумачылі кіроўца і пасажыры аўта, да моманту ДТЗ дзяўчынка ішла па абочыне і размаўляла па мабільным тэлефоне, але раптам змяніла кірунак руху і выйшла на праезную частку. Кіроўца паспрабаваў сысці ад сутыкнення, выехаў на паласу сустрэчнага руху, аднак правай часткай усё ж учапіў школьніцу», — распавёў Аляксандр Казючыц.

Дзяўчынку шпіталізавалі з зачыненай чэрапна-мазгавой траўмай. Іншых пацярпелых няма.

Праводзіцца праверка. І кіроўца, і пацярпелая характарызуюцца дадатна. Вядома, што дзяўчынка са шчаснай сям'і. У момант аварыі яна ішла да прыпынку, каб паехаць да сябра на дзень нараджэння.

*БелТА.*

# Выбірай! Курэнне, ці здароўе!

■ **Е. Бондарава,**
*урач-лабарант Глыбоцкага РЦГЭ.*

Цыгарэты – гадзіна за гадзінай, дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам паступова руйнуюць здароўе бестурботных курцоў.

У цыгарэтах утрымоўваецца нікацін - "наркотык", які выклікае прывыканне. Нікацін - гэта моцны раслінны яд. Яго смяротная доза, 80-120 мг (больш 2-х пачкаў цыгарэт у дзень). Нават пры скурванні аднаго пачка цыгарэт за кароткі час можа наступіць цяжкае атручванне і нават смерць.

Акрамя нікаціну, у цыгарэтным дыме ўтрымоўваецца мноства іншых шкодных хімічных рэчываў, шматлікія з іх проста яды.

**НЕБЯСПЕЧНЫЯ НАСТУПСТВЫ КУРЭННЯ ДЛЯ АРГАНІЗМА:**

**Курэнне і праца мозгу:** курэнне тытуню ў тры разы павялічвае рызыку развіцця вострых парушэнняў мазгавога кровазвароту (інфаркту мозгу, унутрымазгавога кровазліцця);

**Сардэчна-сасудзістыя захворванні:** дастаўка кіслароду да сардэчнай цягліцы рэзка парушаецца з-за блакавання гемаглабіну крыві вокісам вуглярода з тытунёвага дыму. Гэта прыводзіць да сур'ёзных параз сэрца і сасудаў;

**Лёгачныя захворванні:** вялікая колькасць хімічных рэчываў трапляе ў кроў чалавека праз лёгкія. Цыгарэтны дым, уступаючы ў непасрэдны кантакт з лёгкімі, значна павялічвае рызыку захворвання пнеўманіяй, эмфізэмай, хранічным бранхітам і іншымі лёгачнымі захворваннямі;

**Захворванні страўніка:** адмоўным эфектам працяглага курэння з'яўляецца развіццё ў чалавека розных хранічных захворванняў страўніка, аж да развіцця язвавай хваробы;

**Парушэнні працы залоз унутранай сакрэцыі:** (гіпофізу, шчытападобнай залозы, наднырачнікаў), прыводзяць да змены абмену рэчываў і зніжэння адаптацыйных магчымасцяў чалавека;

**Курэнне і рак:** апроч рака лёгкіх, ужыванне тытуню прыводзіць да рака паражніны рота, глоткі, гартані, стрававода, страўніка, падстраўнікавай залозы, печані, нырак, мачаточніка, мачавой бурбалкі, шыйкі маткі;



**Курэнне і цяжарнасць:** нікацін згубна дзейнічае не толькі на фізічны, але і на псіхічны стан будучага дзіцяці. Для дзяцей, маці якіх паляць, ужо ў раннім узросце характэрны няўважлівасць, імпульсіўнасць, звышактыўнасць, адставанне ў фізічным і разумовым развіцці.

У жанчын, якія паляць, вышэй верагоднасць таго, што цяжарнасць можа скончыцца заўчаснымі родамі, выкідкам ці мёртванароджаным.

**Падумайце, навошта вам гэта трэба!**

Бо жыццё поўнае разнастайнасцяў і прыямнейшымі задавальненнямі, якія не прыносяць шкоды для здароўя.

Калі не курыце – не пачынайце! Калі курыце – кіньце прама сёння!



Алег Лысёнак, МЭГА "Прырода і мы"

# Эколагі добраўпарадкавалі тэрыторыю Залескага сельсавета

**Міжнароднае экалагічнае аб'яднанне "Прырода і мы" працягвае публікацыю матэрыялаў аб ажыццяўленні праекта "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый", гэтым разам на тэрыторыі Залескага сельскага савета.**

Паводле праекта МЭГА "Прырода і мы":

– створаны Залескі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад, асноўнай задачай якіх з'яўляецца ахова прыроды і краязнаўства;

– абследаваны тэрыторыі Залескага парка, Запрудскае гарадзішча, азёры Сетаўскае, Мураўшчына, Белае, Бярозаўскае, Зубкоўскае, часткова р. Паловіца;

– на тэрыторыі Залескай сярэдняй школы ўсталявана адкрытая альтанка (экалагічны клас);

– абсталявана зона адпачынку на беразе возера Сетаўскае (2 распранальні, набор – стол з лаўкамі, дзве лаўкі);

– на "Мамчынай горцы" ўсталяваны стэнд, тэкст якога падрыхтаваны мясцовым краязнаўцам, настаўнікам Залескай школы Рыгорам Леанідавічам Шарыпкіным, з наступным надпісам:

**"МАМЧЫНА ГОРКА"**

Прыроднае ўзвышша па-над возерам Белае, якое носіць назву "Мамчына Горка".

Легенда аб гэтым месцы ўзнікла на аснове паданняў і аповядаў, сягаючых у сярэдзіну XVIII стагоддзя. Прыкладна ў 1750-ых г.г. гаспадаром Залескага маёнтка з'яўляўся граф Лапата, аб якім гісторыя захавала самыя непрыемныя ўспаміны. Залескі магнат вылучаўся асаблівай жорсткасцю характару ў адносінах да прыгонных сялян, да мясцовага люду.

У графа Лапаты была адзіная дачка Дарута, якую з самага маленства выкарміла, выгадавала і выхавала вясковая жанчына-служанка. Сялянка афіцыйна звалася "мамкай" – выхавальніцай графскай дачкі-паненкі.

У сялянкі гадаваўся свой сын – Янка. Сялянскі хлопчык і дзяўчынка-графіня ўвесь час выхоўваліся разам. А пасталеўшы, пакахалі адзін аднаго.

Граф Лапата вырашыў аддаць дачку замуж, нагледзеўшы ёй у жаніхі багатага і прадпрымальнага памешчыка з Лужкоў Тадэвуша Жабу. Дарута адмовіла пану Тадэвушу, абвясціўшы бацьку аб тым, што яна кахае простага сялянскага хлопца.

Раз'юшаны граф аддаў загад зачыніць у падзямельных скляпеннях палаца Янку і Даруту. Старая мамка ноччу скрала ключы ад склепа і выпусціла закаханых, якія збеглі з маёнтка назаўсёды.

Раніцай, убачыўшы, што вязні ўцяклі, граф Лапата учыніў допыт старой мамцы. Пасля жорсткіх катаванняў няшчасную жанчыну адвялі на высокую гару над возерам, загадалі ўласнымі рукамі выкапаць сабе магілу, скінулі мамку ўніз і пахавалі жывою.

З таго часу гэта месца і стала насіць назву "Мамчына Горка".

Народная легенда аб "Мамчынай Горцы" аказалася вельмі прыцягальнай па сюжэце для літаратараў. У 1936 годзе па матывах гэтай легенды беларускі паэт Міхась Машара стварыў рамантычную паэму "Мамчына Горка".

У 1996 годзе беларускі пісьменнік Юрый Татарынаў, зачараваны гэтым паданнем, піша гістарычную аповесць "Залеская гісторыя".

"Мамчына Горка" з'яўляецца адным з турыстычных і гістарычных аб'ектаў на краязнаўчым маршруце "Залесчына гістарычная".

Дзякуючы настаўніку Р.Л. Шарыпкіну і іншым супрацоўнікам Залескай школы створаны турысцка-экскурсійны маршрут, працягласць якога складае 29 кіламетраў.

Маршрут уключае дзесяць гістарычных і археалагічных аб'ектаў (гарадзішча жалезнага веку (в. Запруддзе); сядзіба ў маёнтку Залессе-Астроўна і пейзажны парк (в.Залессе-Астроўна, Мамчына Горка (воз. Белае); Свята-Пакроўская царква (в. Бушыкі); Гісторыка-краязнаўчы музей "Мінулае Залесчыны" (в. Залессе, Залеская СШ); гарадзішча жалезнага веку; каменныя крыжы сярэднявечча (в. Зубкі); каменны крыж сярэднявечча (в. Сарокі); радзіма беларускага паэта Янкі Пачопкі (в. Летнікі); камень-следавік і ахвярныя камяні (в. Путраніца); камень Язэпа Драздовіча (лясное ўрочышча Цатоўка).

У маршрут уваходзяць і гідралагічныя аб'екты: рэкі і азёры Залесчыны (рэчкі Дабрылаўка, Бяловіца, Дунайка, Лучайка, Паловіца; азёры Сетаўскае, Мураўшчына, Белае, Бярозаўскае, Зубкоўскае; штучнае водасховішча Паловіца), якія размешчаны ланцугом, адно за адным, уздоўж якіх пралягае ўся дарожная структура.

Цікавасць абавязкова выклікаюць гістарычныя помнікі – сядзіба графа Молле ў вёсцы Залессе – Астроўна, якая адносіцца да першай паловы XVI ст., і пейзажны парк. Да нашага часу захаваліся былы дом для панскай прыслугі, графская стайня, некаторыя гаспадарчыя пабудовы, пейзажны парк.

У алеях парку захавалася 48 каштоўных, рэдкіх, экзатычных парод дрэў і кустоўнікаў, якія былі тут пасаджаны спачатку панам Станіславам Молле-бацькам, а потым яго сынам Станіславам. Тут расце адзіны на Глыбоччыне экзэмпляр ліпы амерыканскай буйналіставай, маюцца пасадкі піхты і лістоўніцы японскай, кедра і бэза венгерскага.

Не пакіне раўнадушнымі нікога Свята-Пакроўская царква, якая знаходзіцца ў вёсцы Бушыкі. Яна пабудавана ў 1792 годзе. Гэта помнік гісторыі, культуры і архітэктуры. Пабудавана яна ў рэтраспектыўным рускім стылі. Царква дзейнічае і сёння. Летапісы сведчаць, што на гэтым месцы першы драўляны храм быў узведзены ў 1552-ім годзе ўладальнікамі Залескага маёнтка з роду Корсакаў.

Нельга не звярнуць увагу на яшчэ адну цікавую мясціну Залесчыны – вёску Летнікі: тут нарадзіўся, жыў, працаваў і ствараў свае літаратурныя творы беларускі паэт Янка Пачопка. Імя гэтага чалавека добра вядома ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Хата Янкі Пачопкі ў Летніках у 1930-ых г.г. з'яўлялася своеасаблівым духоўным і паэтычным цэнтрам на Залесчыне, бо ў доме паэта-фалькларыста часта гасцяваў і шмат стварыў сваіх шэдэўраў Язэп Драздовіч, яго лепшы сябар. А з суседняй воласці, з вёскі Таболы, што на Шаркаўшчыне, сюды прыходзіў малады паэт Міхась Машара. І тады ў хаце Пачопкі ладзіліся творчыя паэтычныя вечарыны і мастацкія вернісажы, праводзіліся асветніцкія мерапрыемствы для вяскоўцаў.

Маладым біёлагам Таццянай Абрамчык створана экалагічная сцяжынка, якая праходзіць па азёрах і рэках Залесчыны. У дадзены момант распрацоўваецца матэрыял, які аб'яднае гэтыя маршруты ў адзін – экакраязнаўчы.

Пры рэалізацыі праекта на тэрыторыі Залескага сельвыканкама выдаткавана 1120 бел. руб (11 млн. недамінiраваных руб.). Будуць працягвацца работы па ўзнаўленні возера Белае. Плануецца падняць узровень вады на 80 см. Для гэтага будзе ўсталявана дамба.

У час фэсту ў в.Бушыкі, 21 ліпеня, МЭГА "Прырода і мы" будуць арганізаваны водныя катанні на лодках, абсталяваных электраматорамі з наведваннем "Мамчынай горкі" і Залескага старадаўняга парку.

На дадзены момант распрацаваны буклет пра Залесчыну.

Прыемна канстатаваць, што праект унёс значнае ажыўленне ў жыццё мясцовых супольнасцей: за сумесную працу па добраўпарадкаванні ўзяліся і дарослыя, і дзеці. Мясцовае насельніцтва ўдзячна за добрыя справы, зробленыя падчас рэалізацыі праекта.

МЭГА "Прырода і мы" цешыцца, што ў наш крызісны час можа ўнесці хоць малую кроплю ў развіццё сельскіх тэрыторый. Працы ў гэтым кірунку будуць працягвацца.



**Сядзібны дом графа Молле ў Залескім парку, сярэдзіна 1970-х гг. Не захаваўся.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**На тэрыторыі Залескай сярэдняй школы ўсталявана адкрытая альтанка (экалагічны клас).**



**На беразе Сетаўскага возера абсталявана зона адпачынку: 2 распранальні, набор – стол з лаўкамі, дзве лаўкі.**



**Залескі парк над возерам Белае.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## МНС інфармуе

**на 06.06.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**

Пажараў – 333;

Гібель людзей – 48, з іх дзяцей няма;

**Глыбоцкі раён:**

Пажараў – 19;

Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.

За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

